ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1779) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 17 ЧЭРВЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл

# ВІТАЕМ УДЗЕЛЬНІКАЎ I ФЕСТЫВАЛЮ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ!

(праграма фестывалю на стар. 2, словы папулярных песень — на стар. 5).

## ЗА ПОСПЕХ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

У Бельск я прыехаў у пятніцу, у самы разгар выбарчай кампаніі. Ужо на пероне кінуліся мне ў вочы бела-чырвона-белыя плакаты. Нейк малавата. Значыць, патрэбна дапамога, еду ў добры час. Я наддаў маху, спяшаючыся ў клуб БГКТ, дзе размясціўся штаб Беларускага выбарчага камітэта. За парогам я ледзь не ляснуўся аб падлогу, зачапіўшы нагою вядро з клеем. Божанькі, што тут робіцца? Плакаты, клей, пэндзлі, усё ў перамешку! Вакол чырвоныя ад няспання вочы сяброў, якія кінуліся да мяне расказваць пра падзеі апошняга перадвыбарчага тыдня. Па-суседску з клубам БГКТ салідарнікі ўсталявалі гукаўзмацняльнікі і пускаюць „Першую Брыгаду“ кругом і навокал. „Я ўжо да канца сваіх дзён не змагу спакойна слухаць гэтую песню“, — кажа хтосьці. А чаму ж нам не зрабіць канкурэнцыю і запусціць „Дубіны“? Ідэю падхапілі ўсе, але з ажыццяўленнем яе пачакалі да суботы, бо ўжо вечарэла, а ўначы нармальныя людзі хочуць паспаць. Моладзь у штабе — таксама, але для сну няма часу. Выспімся пасля выбараў.

Рушаем. Плакаты ляпіць пачнем а другой гадзіне, каб не зарана, а то за ноч жулікі паабдзіраюць іх. Або зашмаруюць чым-небудзь. Увечары паразносім лісточкі з інфармацыяй пра нашых кандыдатаў. Кладзем іх у паштовыя скрынкі, клеім на дзвярах пад'ездаў. Добра прыстаюць да бляхі. Трэба пачакаць, пакуль высахнуць. Абдзерці іх немагчыма, тым больш, што наклейваем па дзесяць штук адзін пры адным. Але нашы працаўнікі не здаюцца: колюць вочы нашым кандыдатам, дамалёўваюць вусы, акуляры, пішуць на плакатах „камуна“, „КПЗБ“ або і яшчэ якое нецэнзурнае слоўка. Ну што ж, у кожнага свае метады палітычнай барацьбы. Нам яны чужыя. У клубе мы пастанавілі, што выбарчую кампанію будзем весці па-джэнтльменску, і строга гэтага прытрымліваліся. Нічога не абдзіраем, нічога не заклейваем, не шмаруем. Каб іншыя паводзілі сябе так жа карэктна, нам давялося нават пазваніць у паліцыю на аднаго такога дзядзьку з самаходам, які быў заеўся на нашы плакаты. Наўрад ці памагло.

Добра расклейваць у кварта-

(Працяг на стар. 6)




РЭХА ГАЙНАЎСКАГА КАНФЛІКТУ

## КОРКУС ЯШЧЭ РАЗ?

Здавалася б, справа канфлікту ў Гайнаўскім доме культуры даўно ўжо прыціхла. Дырэктарам застаецца Мікалай Бушко, яго намеснікам — „чалавек звонку“, а не Эва Коркус.

Пра гэтую справу пісалі многа беластоцкія газеты, міністр культуры І. Цывінская заехала „гасіць нацыянальны канфлікт“ (як гэта сама акрэсліла). Справай Э. Коркус і не толькі яе, бо тэмамі, якія датычылі беларускіх спраў увогуле, займаліся многія журналісты; папка, з якой паявілася Э. Коркус у судзе на гэты раз, была поўная газетных выразак. „На гэты раз“ — таму што не першы раз ужо, калі Э. Коркус падае ў суд журналістаў „за знеслаўленне“ яе. Не пабаялася нават незалежнага званага „Тыгодніка Беластоцкага“. На гэты раз пані Коркус мае прэтэнзіі да Анны Радзюкевіч з „Газеты Всполчэснай“.

Анна Радзюкевіч у сваім рэпартажы прыводзіць словы Э. Коркус, якія прагучалі на сустрэчы працаўнікоў Дома культуры з начальнікам горада Гайнаўкі Ядвігай Патэюк (6.XII.1989 г.), у якіх Э. Коркус, „абаронца інтарэсаў“ групы працаўнікоў, апазіцыйнай да дырэктара М. Бушко, ставіць перад дырэктарам ультыматум: або ён згодзіцца на Э. Коркус як сваёго намесніка „па мерытарычных справах“, або „кроў пальецца“ ў Гайнаўцы, калі гэта не збудзецца.

Э. Коркус выступае без адваката. Зноў суд супраць журналіста становіцца яшчэ адной спробай расправы над дырэктарам. Сведкі, якія паклікала Коркус, мала ўжо памятаюць, што тады дакладна сказала яна, але памятаюць словы працаўнікоў БГКТ, што Бушко — „сімвал беларускасці“, і добра памятаюць, колькі дадаткова выпрацаваных дзён мела Э. Коркус у чэрвені 1989 г. Справу таго, што большая частка працаўнікоў Дома культуры ў тайным галасаванні не даверыла Э. Коркус як магчымаму намесніку дырэктара, яны канчаюць тым, што сярод іх мала было мерытарычных працоўнікоў, а адміністрацыя і іншыя. А працаўнічы канфлікт на нацыянальны раздзьмухалі БГКТ-оўцы! Пратэстуючыя былі „застрашаныя“: часам „бралі таксі, каб даехаць дахаты“, калі на нейкую імпрэзу прыходзіла больш беларусаў, якія падобна аж кіпелі, калі ў борце працаўніка тырчэў значок „Салідарнасці...!“

Сведак М. Бушко расказаў ад пачатку, як група „новых“ салідарнікаў (якія часам былі ўжо ва ўсяляхіх „пронах“ раней і ўздумалі пабыць яшчэ і ў „Салідарнасці“ — ёсць жа людзі, якія заўсёды выбіраюць дзе ямчэй і дзе лепш) не захацела прыняць у свае ўжо легальныя рады 11 іншых працаўнікоў, сярод іх і М. Бушко, які быў у „Салідарнасці“ ўжо ў 1980 г. Э. Коркус паказала адказ Краёвай Камісіі ў Гданьску на гэтую дылему: не прымаць таго, хто хоча, а таго, каго яны захочуць. Суддзя сказала далучыць да актаў ксеракопію дакумента, бо арыгінал можа Эве Коркус яшчэ прыдацца. Бо і праўда, ніколі невядома, калі і на каго заложыць справу пані Коркус. Пішу гэта з поўным неспакоем: чаго ж і мне падстаўляць галаву, пісаць, што думаю? Пані Коркус на калідоры

(Працяг на стар. 4)




— 4 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Зусім магчыма, што знойдуцца асобы, якія скажуць: усе боязі, што аб'яднаная Германія пачне вайну з еўрапейскімі народамі, беспадстаўныя. Навошта немцам весці вайну і праліваць сваю ды чужую кроў, калі яны, будучы адной з першых эканамічных магутнасцей свету, змогуць мірным спосабам дасягнуць усё тое, што давала ў мінулым вайна. І, несумненна, такія асобы будуць мець у многім рацыю. Ужо сёння за такія валюты, як амерыканскі долар, англійскі фунт ці заходненямецкая марка, можна па сутнасці ўсё або амаль усё на свеце купіць. Датычыць гэта зямлі, фабрык, а таксама людзей, якія ахвотна наймуцца і будуць салідна і верна працаваць на таго, хто добра заплаціць. Такім чынам, мара немцаў у мінулым, каб стацца панамі свету пры дапамозе зброі, можа ажыццявіцца пры дапамозе грошай. І так, не трэба будзе ні арміі, ні самалётаў, ні танкаў, каб апаноўваць і падпарадкоўваць сабе іншыя краіны і іншыя народы. Хто ведае, ці ў тых еўрапейскіх народаў, якія ў параўнанні з немцамі сёння, а таксама ў будучым, жывуць і будуць жыць намнога горш, чым немцы, не ўзнікне свайго роду сервілізм, свайго роду ахвота служыць і падпарадкоўвацца магутнай і багатай Германіі. Можа сфармулявацца нешта такое, як чарга перш за ўсё сярод славянскіх народаў, якія захочуць выкарыстаць тое „благаславенства", якое вынікае для беднага з яго кантактаў з багатым. Мяне часта насцярожвалі, нават палохалі размовы прадстаўнікоў польскага тэлебачання з людзьмі, якія стаялі ў чарзе некалькі месяцаў назад перад консульствам ГДР у Шчэціне. Маладыя людзі вельмі спакойна гаварылі аб тым, што хочуць назаўсёды пакінуць Польшчу і пасяліцца ў ГДР. Калі прадстаўнік тэлебачання пытаў, што станецца з іх дзецьмі, якія будуць хадзіць толькі ў нямецкія школы і такім чынам будуць пераўтварацца ў немцаў, маладыя людзі паціскалі плячыма і не пярэчылі, што іх дзяцей чакае асіміляцыя. Праўда, на шчасце ніхто з іх не выявіў задаволенасці гэтым, але, з другога боку, ніхто не сказаў, што ён зробіць усё, каб яго дзіця назаўсёды захавала сваю нацыянальнасць. Спаткаў я і беларуса, які мне сказаў, што няма сэнсу рабіць вялікага рэйваху з тае прычыны, што яго дзіця можа паддацца працэсу дэнацыяналізацыі і асіміляцыі, бо сілаю рэчаў трэба прыстасавацца да правоў і законаў большасці, а не заставацца белай варонай. Беларус гэты дадаў, што я гляджу на сучасны свет праз прызму старых паняццяў і ацэнак, і што міждзяржаўныя адасобленасці, прадузятасці і варожасці не маюць сэнсу ў сучасным свеце, які ідзе ў напрамку адзінства. У такой сітуацыі старыя паняцці патрыятызму і нацыянальнай адасобленасці з'яўляюцца свайго роду калодай, да якой добраахвотна прыкоўваецца прыхільнік крытэрыяў родам з эпохі феадалізму. Мой гарачы пратэст супраць такой філасофіі нават мне самому здаецца сёння не вельмі пераканаўчым. Ну і што ж рабіць? Галасна праяўляць свой пункт гледжання, спяваць ці выкрыкваць гарачыя арацыі ў яго абарону? Справа ў тым, што маладое пакаленне, не абцяжаранае памяццю аб мінулай вайне, мае свой пункт гледжання, які выразна адрозніваецца ад пункту гледжання майго пакалення. Праявілася гэта і ва ўжо ўспомненай тэлевізійнай перадачы з-пад консульства ГДР у Шчэціне. Якраз у гэтай жа перадачы былі прыведзены размовы з польскімі асаднікамі на заходніх землях. Былі гэта або перасяленцы з „крэсаў" або былыя салдаты, якія вызвалілі заходнія землі і пасля засталіся жыхарамі гэтых зямель. Людзі гэтыя вельмі моцна акцэнтавалі сваю непрыхільнасць да немцаў і да ідэі аб'яднання Германіі. Ну і каму прызнаць рацыю? Тым маладым з-пад консульства ці тым, што змагаліся з немцамі? Зразумела, мне бліжэйшыя другія, але трэба старацца зразумець і маладых, да якіх належыць будучыня.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

**Другое пасяджэнне Галоўнай рады і Краёвай управы БДА** адбылося 3 чэрвеня. Тэмай пленума былі выбары ў мясцовыя самаўрады і сітуацыя на Беласточчыне, якая склалася пасля выбараў. З дакладамі выступілі: Яўген Мірановіч — намеснік старшыні БДА („Рост палітычнай свядомасці беларусаў Беласточчыны ў сувязі з выбарамі") і Віктар Стахвюк — каардынатар Краёвай управы, шэф Беларускага выбарчага камітэта („Паслявыбарчая сітуацыя на Беласточчыне"). Гасцямі пасяджэння былі намеснікі старшыні Сойму Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Юры Хадыка і Міхась Ткачоў, якія пазнаёміліся з праблемамі беларускай меншасці ў Польшчы.

**Лідэры БНФ „Адраджэнне" Юры Хадыка і Міхась Ткачоў** былі ў Польшчы па запрашэнні Сената РП і Незалежнага цэнтра міжнародных студыяў. Прымалі яны ўдзел у міжнароднай канферэнцыі ў Варшаве, прысвечанай дэмакратычным зменам ва ўсходняй і цэнтральнай Еўропе. 6 чэрвеня прадстаўнікі БНФ былі прыняты ў сядзібе Рады Міністраў прэм'ер-міністрам **Тадэушам Мазавецкім.**

**Перад Генеральным консульствам СССР у Гданьску** зноў дайшло да вулічных эксцэсаў. Група з шасці анархістаў дэманстравала супраць, як яны сцвердзілі, замардаванню анархістычнага дзеяча ў Кузнецку. Дэманструючыя абкідалі будынак консульства бутэлькамі з бензінам. Была выбіта шыба, абгарэлі сцены будынка.

**Ізраільскі прэм'ер-міністр Іцхак Шамір** выказаўся станоўча адносна „права" савецкіх яўрэяў, якія эмігруюць у Ізраіль, на пасяленне на палесцінскай тэрыторыі, акупаванай Тэль-Авівам. Шамір асудзіў становішча Гарбачова, які ў Вашынгтоне заявіў, што калі савецкія эмігранты будуць пасяляцца на акупаваных землях, то Масква спыніць гэтую эміграцыю.

**Гродзенскія таможнікі** выявілі ў двух польскіх грамадзян, якія падарожнічалі цягнікам Беласток—Вільня, па 35 балончыкаў са слёзатачывым газам заходнегерманскай прадукцыі. Балончыкі былі прызначаны „нейкім жыхарам Вільні, якія абяцалі заплаціць па 200 рублёў за штуку".

**Праз гранічны пункт у Агародніках** быў адпраўлены чарговы транспарт з лекамі для Літвы. Гэтым разам жыхары Шчэціна па ініцыятыве мясцовай „Салідарнасці" сабралі 1200 кілаграмаў медыкаментаў.

**У Рэспубліцы Сан-Марына** (гэтая маленькая дзяржава знаходзіцца на тэрыторыі Італіі) на хвалі дэмакратычных перамен у Еўропе самараспусцілася камуністычная партыя. На яе месца была створана прагрэсіўная дэмакратычная партыя, якая ў гербе замест серпа і молата змясціла голуба міру.

**Ад 6 чэрвеня ў Польшчы няма цэнзуры.** У гэты дзень увайшоў у сілу закон, які адхіліў ранейшае рашэнне аб кантролі публікацый і відовішчаў.

**У адных з беластоцкіх ясляў** бацькі арганізавалі акупацыйную забастоўку. Прычынай яе было рашэнне ўладаў аб ліквідацыі гэтых ясляў з-за малога ліку дзяцей. Бацькі не згаджаюцца перавесці сваіх дзетак у суседнія яслі. Раней беларускія арганізацыі прапанавалі стварыць у гэтай пляцоўцы прадшкольную групу, у якой дзеці маглі б знаёміцца з беларускай мовай і культурай.



# I Фестываль Беларускай Песні ў Польшчы 1990



Беласток „Амфітэатр"

**ПРАГРАМА**

**16—17 ЧЭРВЕНЯ 1990 г.**

**СУБОТА (16.06.) — гадзіна 16.**

**КОНКУРС БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

**I частка — фальклорна-мастацкая (16—18)**

**II частка — сучасна-эстрадная (18—20).**

Аб удзеле ў фестывалі заявілі наступныя выканаўцы:

**Салісты:**

— Мар'я Міруць і Юрка Налівайка з Гарадка, Люба Гаўрылюк з Беластока, Ала Дубец з Санока, Юстына Кардзюкевіч, Юрка Харкевіч і Лідзія Маліноўская з Бельска-Падляшскага, Аляксандр Петручук з Гайнаўкі.

**Дуэты:**

— Яўгенія Коршак і Кастусь Селівановіч з Бельска-Падляшскага, Люба Гаўрылюк і Яўгенія Астапчук з Беластока, Раіса Тынявіцкая і Лідзія Янчук з Беластока.

**Трыо:**

— „Ікос" з Гайнаўкі, трыо з Бельскага дома культуры.

**Вакальныя групы:**

— Калектывы з Дабрывады, Гарадка, „Падлясянкі" і „Дваранкі" з Хільмонаў, „Каліна" з Дашоў, „Крынічка" з Беларускага ліцэя з Бельска-Падляшскага, мужчынскі актэт з Гайнаўскага дома культуры, „Хлопцы-рыбалоўцы", жаночая група з Беластока.

**Рок-гурт** „Альбаросіка" з Беластока.

**У фестывалі прымуць удзел госці з БССР:**

— Таццяна Мархель з Віцебска,

— калектывы „Лявоны" з Воранава, „Світанак" з Гродна,

— рок-гурты „Уліс" і „Мроя" з Мінска, „Грамада" з Віцебска.

У час канцэрта „Тэатр мод" з Мінска пакажа адзенне з эпохі Францыска Скарыны (XVI ст.).

**НЯДЗЕЛЯ (17.06.) — гадзіна 17.**

**КАНЦЭРТ ЛАЎРЭАТАЎ**

**Выканаўцы:**

— **пераможцы** суботняга конкурсу.

— **госці з БССР:** калектывы „Лявоны" з Воранава і „Світанак" з Гродна, рок-гурты „Грамада" з Віцебска, „Уліс" і „Мроя" з Мінска.

— **хоры** з Гайнаўкі, Беластока і „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага.

У час канцэрта „Тэатр мод" будзе прапанаваць наймаднейшыя ўзоры жаночага і мужчынскага аддзення.

Фестывалю будзе спадарожнічаць кірмаш; свае тавары будуць прадаваць гандлёвыя арганізацыі з Мінска, Гродна і Беластока. У амфітэатры будзе можна купіць беларускія выданні, а нашы пісьменнікі будуць падпісваць свае кніжкі.

**Аўтар сцэнаграфіі — Уладзімір Мішчанчук** — загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску. Выкананне — студэнты БДТМІ ў Мінску.

**Рэжысура:**

— **Пётр Гуд** — загадчык кафедры рэжысуры масавых святаў БДТМІ ў Мінску,

— **Сяргей Лукашук** — дырэктар Бельскага дома культуры.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## АПОШНІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ



*Коля Ваўранюк пакідае значок БАСа на магіле Уладзіміра Караткевіча на Усходніх могілках у Мінску.*

11—17 красавіка Аліна Бурыла, Барбара Кучынская і Мікола Ваўранюк як прадстаўнікі БАСа прабывалі ў Мінску. Галоўнай мэтай пабыўкі было сустрэцца і запрасіць на „Басовішча" беларускіх салістаў і рок-гурты. Персанальна мы сустрэліся з Алесем Камоцкім, Сяржуком Сокалавым-Воюшам (дзякуем яму за каву ў Доме літаратара) і басістам гурта „Уліс" Сяржуком Краўчанкам. Спаткалі мы таксама іншых, вельмі цікавых людзей, паглядзелі Мінск, былі ў Курапатах, наведалі магілу Уладзіміра Караткевіча і музей старажытнабеларускай культуры і мастацтва. Дзякуем усім, без каго гэтыя дні не былі б такімі поўнымі незабыўных уражанняў.

11—13 мая адбыўся рэйд беларускіх студэнтаў „Падарожжа". На гэты раз мы вырашылі пайсці па вёсках, дзе нашыя людзі жывуць супольна з палякамі, даведацца, як гэтае сужыццё выглядае, магчыма, пагаварыць пра надыходзячыя тады выбары. Сустрэліся мы ў пятніцу вечарам у Красным Сяле, у хаце нашай сяброўкі. Ёй і яе маме за цудоўную гасцінну вялікае беларускае дзякуй. Маем надзею, што занадта не набалаганілі.

У суботу нашае падарожжа вяло праз Шашылы, Дубна, Малочкі і Нурэц, дзе мы правялі другую ноч. У нядзелю пасля поўдня ўсе раз'ехаліся дамоў.

У пятніцу вечарам адбылося таксама пасяджэнне Галоўнай рады БАСа. Галоўная тэма — „БАСовішча".



*Праграма БАСа на вогнішчы. З гітарай Эля Бэзюк.*

17—20 мая праходзіла чарговае паломніцтва праваслаўнай моладзі на св. гару Грабарку. Як і ў мінулым годзе, створаны быў беларускі сектар, які сёлета вёў Юрка Асеннік, вучань духоўнай семінарыі ў Яблачыне. Духоўным апекуном групы быў айцец Уладзімір Місеюк з Саколкі. Ужо традыцыйна ў пятніцу пасля вячэрні высвячаліся новыя крыжы, адзін з іх быў ад беларускай моладзі. Ноччу большасць паломнікаў спавядалася. У суботу, апрача службаў, прадбачаны былі дыскусіі ў групах, вогнішча. Прадстаўлены былі прапановы на лета, прадаваліся выданні БАСа і брацтва. На жаль, дыскусіяў не было, або былі, толькі цяжка было даведацца, дзе і калі? Вогнішча паказала жахлівы ўзровень нашай нацыянальнай свядомасці. Мы, г.зн. БАСаўцы, паказаліся зноў нацыяналістамі, паколькі нам не падабалася глядзець на нашых людзей, якія спяваюць па-руску, па-ўкраінску, толькі не па-беларуску. Думаю, што ніхто з нас не мае нічога супраць песень братніх народаў, толькі ці ёсць яшчэ адзін такі народ, які чужое шануе, адкідаючы сваё? Многія скажуць, што Грабарка і наогул царква — гэта не месца для нацыянальных сварак. Так, толькі, як доўга будзем існаваць як „праваслаўныя — невядома хто?" Хто нас такімі ўшануе, калі мы самі сябе не шануем?

Гэтая сумная рэфлексія так не пасуе да цудоўнай духоўнай атмасферы, якая існавала праз тры дні на Грабарцы!

**(Б.К.)**

**Фота Б. Кучынскай**



*Вячэра ў Красным Сяле.*

**ПРАГРАМА ФЕСТЫВАЛЮ МУЗЫКІ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ „БАСОВІШЧА '90"**

Гарадок, 13—15.07.1990 г.

**ПЯТНІЦА, 13.07.1990 г.**

1) 10.00 — Пачатак расквартаравання (Гарадоцкі дом культуры)
2) 18.00 — Урачыстае адкрыццё „Басовішча '90"
3) 18.30 — Пачатак вечара аўтарскай песні. Сярод выканаўцаў госці з БССР: Сяржук Сокалаў-Воюш, Кася Камоцкая, Андрэй Мельнікаў, Віктар Шалкевіч; з Беласточчыны — Эля Бэзюк, Дарэк Фёнік.

**СУБОТА, 14.07.1990 г.**

Выстаўка „БАС на здымках", продаж касетаў і выданняў БАСа.

Выбары „MISS БАСОВІШЧА" і іншыя конкурсы.

1) 14.00 — Пачатак рок-канцэрту. Выступаюць госці з БССР: „Уліс", „Мроя", „Грамада", „Камоцкі і яго каманда", а таксама „Альбаросіка" (Беласток)
2) 22.00 — „Танцавальны вечар" у Гарадоцкім доме культуры. Для тых, хто не любіць танцаваць, — п'еса Марка Заброцкага (БАСаўца) у выкананні аматарскага тэатра з Беластока.

**НЯДЗЕЛЯ, 15.07.1990 г.**

Неспадзяванка.

Ахвотных паказаць сваё мастацтва, заспяваць на „Басовішчы" запрашаем навязаць кантакт з Вячаславам Харужым, тэл. 75-45-39 Беласток, або з БГКТ — тэл. 311-18 Беласток, вул. Варшаўская 11.

Рэгістрацыя будзе таксама праводзіцца 13.07.1990 г. у Гарадку, перад пачаткам канцэрту. Заспяваць па-беларуску зможа кожны!

Удзельнікаў просім прыехаць з уласным харчаваннем, палаткамі, спальнымі мяшкамі, і, абавязкова, з **добрым гумарам!!!**

Запрашаем!

**Галоўная рада БАСа**

**МНОГІЯ ЛЕТЫ**

На вяселлі Весі Сыч і Ярка Муська ў Бельску-Падляшскім паявілася вось такая новая гарэлка:




Няўжо бацькі Ярка перанялі манаполь на алкаголь? Не ведаем як вам, шаноўныя чытачы, але нам гэта вельмі падабаецца! Мо хаця гарэлку будзем мець беларускую, бо з усім іншым вельмі ж цяжка.

Карыстаючы нагодай, жадаем Весі і Ярку шчасця, упэўненасці і веры ў самім сябе. А на ўспамін вясельнага дня, пасвячаем фрагмент верша Канстанцы Буйло „Ў краіне мар":

Я помню гэтае спатканьне,
Пагляд гарачы помню твой
Ясьнейшы зоркі залатой,
Што мне ў душу уліў каханьне.
І ў божы дом шлі мы с табою —
Рука ў руку, душа з душой;
Блакіт ясьнеў над галавою,
Пад ногі ліўся сьвет ракой.
А дружкі-зоры штось пялі
Аб шчасьці вечнага каханьня;
З далін зямлі на прывітаньне
Нам кветкі пах свой пасылалі.
І сам нас Бог тады зьвянчаў.

**Сябры**

**„БАЦЬКАЎШЧЫНА '90" — 17—21.VII.1990 г.**

Сустракаемся 17.VII. вечарам у Саколцы. Далейшы маршрут такі: 18.VII. — Кнышэвічы, 19.VII. — Крынкі, 20.VII. — Крушыняны, 21.VII. — Мастаўляны.

Запрашаем! **Галоўная рада БАСа**

**НА КУПАЛЛЕ,**

**якое адбудзецца 23 чэрвеня, а гадз. 20.00 на Замкавай гары ў Гарадку, запрашаюць СТУДЭНТЫ**

 

(Працяг са стар. 1)

**КОРКУС ЯШЧЭ РАЗ?**

ў судзе сказала аб нас, беларускіх журналістах: „Яны думаюць іншае, але вымушаны пісаць іншае, бо інач з ляскам вываляць іх з працы!“

Справа будзе працягвацца. Э. Коркус хоча даказаць, што няпраўдай былі адабраючыя словы І. Цывінскай, сказаныя М. Бушко, а дырэктар несправядліва ацэньвае працу сваіх супрацоўнікаў (асабліва тых бяздарных, неадказных, лянівых і недавучаных) і кіраўнік з яго — абсалютны тыран, а яна ніколі не гаварыла, што пальецца кроў на вуліцах Гайнаўкі, прынамсі „ў тым сэнсе“.

Эва Коркус працуе далей у Доме культуры, але ўжо доўгі час (больш месяца) яна на бальнічным лістку. Дом культуры працуе нармальна.

**Лукаш Баравіцкі**

## Свойскія малюнкі



*Вуліца ў Тыкоціне. Мал. У. Петрука.*

Вяртаемся да народнага

# МОЖА, ХТО-НЕБУДЗЬ ПАМЯТАЕ

*Нядаўна часопіс „Мастацтва Беларусі“ (№ 3 за 1990 г.) апублікаваў матэрыял аб святочным жаночым галаўным уборы, які насілі жанчыны яшчэ ў 20-30 гады нашага стагоддзя ў Заходняй Беларусі, г. значыць, на сённяшняй Брэстчыне. Паколькі па звычаях і абрадавасці тэрыторыя гэтая мае шмат супольнага з паўднёва-ўсходнімі раёнамі Беласточчыны, маем надзею, што аб такім вясельным упрыгожанні, якім з'яўляецца вянок-куст, прыпомняць сабе старэйшыя жыхары ваколіц Кляшчэляў, Чаромхі, Мілейчыц, Нурца ці Сямяцічаў. Можа, захочуць яны падзяліцца сваімі ўспамінамі з нашай рэдакцыяй, можа, захочуць расказаць, як строіліся іх дзядулі і бабулі на вяселле, а як на звычайную вясковую забаву.*

*Паглядзіце на гэты вянок-куст і напішыце да нас. Вельмі чакаем. Няхай аб нашай старой і багатай матэрыяльнай і духоўнай культуры ведаюць нашыя дзеці і наступныя пакаленні.*

**Яніна Чэрнякевіч**



*Дзяўчына ў вянку-кусце. Драгічынскі раён, в. Бездзеж, 1920—30 гады. Від збоку.*

### ВЯНОК-КУСТ

Дзявочыя і жаночыя прычоскі, галаўныя ўборы здавён былі строга рэгламентаваныя. Вянок лічыўся на Беларусі сімвалам цнатлівасці і дзявочай чысціні. Яго выраблялі з кветак, зеляніны, стужак паперы і іншых матэрыялаў. Ускладалі на распушчаныя або заплеценыя ў адну ці дзве касы валасы.

Паводле спосабаў вырабу і аздаблення вянкі падзяляюцца на некалькі відаў. Асобна варта вылучыць вянок-букет або вянок-куст, які бытаваў у Драгічынскім і Бярозаўскім раёнах у 1920—1930-ых гадах. Як адметны вясельны ўбор маладой ён ужываўся да 1940-ых гадоў. Гэты вянок з'яўляецца сапраўднай жамчужынай сярод нацыянальных галаўных убораў. Нараджэнне такога вянка на Заходнім Палессі — з'ява заканамерная. Менавіта ў гэтым рэгіёне шырока адзначалі веснавое земляробчае свята сёмуху (тройцу), якое суправаджалася абрадам ваджэння куста, што ўвасабляў жыватворныя сілы прыроды і быў нібыта здольны перадаваць іх зямлі, полю („Дзе куста вадзілі, там пшанічанька радзіла“), а таксама служыў сімвалам роду і повязі са светам продкаў, ад якіх „залежаў“ ураджай („Пакланіся кусту, то ён дасць хлеба лусту“). Адным з галоўных момантаў абраду быў паход дзяўчат у лес, дзе самую прыгожую прыбіралі кустом (валасы і адзенне аздаблялі зялёнымі галінкамі, кветкамі, дэкаратыўнымі травамі). Спяваючы кустовыя песні, „дзявочае войска“ на чале з „кустом“ хадзіла па вёсцы і віншавала гаспадароў з доўгачаканым святам заканчэння веснавых работ. Але абрад куста, як аднагалосна адзначаюць вучоныя-фалькларысты, звязаны са шлюбнымі адносінамі. Перапляценне земляробчых і шлюбных матываў не выпадковае. В. Я. Проп лічыў: „Узвялічванне шлюбу здзяйснялася не толькі ў мэтах пажадання або „наклікання“ сямейнага дабрабыту. Заключэнне шлюбу лічылася патрэбным у мэтах уздзеяння на ўрадлівасць зямлі“. Дастаткова нагадаць сімволіку самога вянка, якая ўвабрала ў сябе народныя ўяўленні пра дзявоцкасць, шлюб. І невыпадкова ў траецкай песні ёсць такое параўнанне: „Заўем бярозку сосенкаю — звянчаем Аксеньку з Сенічкам“.

Вянок-куст складаўся з трох частак. Першая, асноўная — вузкі, каля 7 см у дыяметры кружок-абручык з дроту, абкручаны зялёнымі акраўкамі ці стужкамі. Да яго прымацоўвалі „пукі“-букецікі — звычайна 6—7. „Пук“ утвараўся з прыкладна дзесяці драцінак вышынёй каля 20 см. Кожная драцінка мела на канцы кветку ці гронку ягад і была абкручана тонкай паперай таго самага колеру, што і кветка ці ягады. Унізе кожнай драцінкі-сцяблінкі мацаваліся доўгія (каля 10 см) выразаныя з паперы ці накрухмаленай тканіны зубчастыя лісточкі, па колеру ўсе аднолькавыя — ці зялёныя, ці сінія, ці малінавыя, ці вішнёвыя. Кветкі ж на драцінках рабіліся рознакаляровымі — белымі, блакітнымі, малінавымі, фіялетавымі, сінімі, чырвонымі. Больш стрыманы колер мелі ягадкі. Найчасцей гэта былі бліскучыя выдзіманыя шкляныя пацеркі ці чырвоныя каралі, нанізаныя на драцяную дужку. Сустракаюцца ягадкі, зробленыя з камячкоў белай ваты, пакрытых празрыстым воскам або аблепленых срабрыстай ці залацістай фальгой. Для вырабу ягад і кветак выкарыстоўвалі самыя розныя матэрыялы: парчовую тасьму, галунны шнур, фарбаванае пер'е, тканіну, паперу. Усе пукі-букецікі раўнамерна размяркоўваліся па абадку-абручыку. Разам яны ўтваралі надзвычай маляўнічы шарападобны куст-букет.

Другой часткай убору быў вузкі пасак тканіны, прыкладна ў два разы даўжэйшы за абручык вянка. Пасярэдзіне пасака мацаваліся рознакаляровыя стужкі даўжынёй каля 1 метра. Пасак з веерам стужак прыколвалі на патыліцы да абручыка, што трымаўся на галаве пасмамі валасоў, якія працягвалі паміж пучкамі-букецікамі. Астатнія валасы распускаліся па спіне дзяўчыны разам з пярэстымі стужкамі.

Трэцяй часткай убору былі дзве стужкі: зялёная і вішнёвая. Іх мацавалі там, дзе абручык кранаўся галавы. Першай клалася вішнёвая, другой (верхняй) зялёная. Пры гэтым сачылі, каб ніжняя стужка выступала з-пад верхняй прыкладна на 0,7 см („каб рубчык ніжній быў відзён“).

Дапаўняўся ўбор стаячым карункавым каўнерыкам у густую зборку. Да такога каўнерыка вельмі пасавалі дзесятак нізак пацерак, абразок, крыжык. Завушніц не насілі. Багата вышывалася раслінным арнаментам з матывамі зялёнага лісця і малінава-сініх кветак белая блузка.

Вышыня, шырыня і аздабленне вянка шмат у чым залежалі ад заможнасці дзяўчыны. У любым варыянце вянок-куст надаваў дзявочай постаці святочны, урачысты выгляд.

**Міхась Пагоня**



*1. Каркас вянка-куста: а) абручык; б) абручык з букецікам, утвораным драцінкамі, кветкамі, ягадамі, лісцем.*

*2. Пярэдняя (надлобная) частка вянка-куста: в) зялёная і чырвоная стужкі ў распластаным выглядзе; г) у згорнутым выглядзе.*

*3. Тыльная частка вянка-куста. Акравак з прышытымі рознакаляровымі стужкамі.*



 




# І песню родную люблю я...

**Падаем найбольш папулярныя песні, якія пачуюцца 16 і 17 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры, пад час I фестывалю беларускай песні.**

**Спявае Аляксандр Петручук з Гайнаўкі**

### БЕЛАРУСЬ МАЯ

*Словы С. Сокалава-Воюша*
*Музыка В. Навіцкага*

Аксамітны летні вечар ахінуў зямлю,
Я вазёрную сінечу вуснамі лаўлю,
Моўчкі слухаю у росах песню салаўя,
Над маім лунае лёсам Беларусь мая.

А над лесам, над сусветам выпрастаў крыло
Залацісты човен-ветах зорнае вясло,
Стан дзявочы Белай Вежы, подых ручая,
Я адной табе належу, Беларусь мая.

Там, дзе гойдае вятрыска залаты мурог,
Паўставалі камянiскі ля тваіх дарог,
Чырванее ранні золак, рэха у гаях,
А ў грудзях тваіх асколак, Беларусь мая.

Мне краеў чужых ня трэба, як ні варажы,
Не хачу чужога хлеба, радасцяў чужых,
Бо чужына сэрца джаліць, цісне, як змяя,
Бо гукае з дальніх даляў Беларусь мая.

**Спявае Ала Дубец з Санока**

### НЕ ЗА ВОЧЫ ЧОРНЫЯ

*Словы А. Русака*
*Музыка Ю. Семянякі*

Ціха растрывожыла думкаю, бяссонніцай
Вечна неспакойная ты, любоў мая.
Не за вочы чорныя, не за бровы смуглыя,
А за сэрца шчырае палюбіў я.
Знаю, не пракладзены мне дарогі роўныя,
Кветкамі ня сцелюцца сцежкі у жыцці.
Пушчамі глыбокімі, горамі высокімі,
Рук не разнімаючы, нам з табой ісці.

Засвяціся яснаю, светлаю, нязгаснаю,
Зорная шчаслівая ты, любоў мая.
Не за вочы чорныя, не за бровы смуглыя,
А за сэрца шчырае палюбіў я.

**Спявае Аляксандр Петручук з Гайнаўкі**

### Я АД ВАС ДАЛЁКА

*Словы Я. Купалы*
*Музыка М. Куліковіча*

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні,
На чужое неба ўжо гляджу сягоння,
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
I як жыў, жыву я ў сваім родным краю.

Я ад вас далёка, а дзе ні гляджу я —
Дома толькі думка днюе і начуе,
Знаю толькі пушчы Белавескай гоман,
Знаю толькі рэчку — з плытнікамі Нёман.

А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца,
Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,
I ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

**Спявае дуэт з хору „Васілёчкі": Яўгенія Коршак і Кастусь Селевановіч.**

### ЯК ПАЕХАЎ СЭМЭНЭК
(народная)

Як паехаў Сэмэнэк дай ў поле араці.
Забыў хлеба, солі, сала з дому ўзяці. (біс)

Ой, арэ мой Сэмэнэк, дай на шлях паглядае.
Усім жонкі абед нясуць, а маёй не мае. (біс)

Дааpаўся Сэмэнэк да зялёнай дубровы
Выпраг волы на дуброву, сам пайшоў дадому. (біс)

Ой, пасіцеся, волы, ды ня бойцеся воўка.
А я пайду да доманьку, бо баліць галоўка. (біс)

**Спявае жаночае трыо Бельскага дома культуры: Багуслава Карчэўская, Аліна Бурыла, Лідзія Маліноўская.**

### ПРЫЙШОЎ НА ВЯСЕЛЛЕ НАШ СВАТОК
(народная)

Прыйшоў на вяселле наш сваток,
Завязаўшы крыжам ручнічок.
Ой, казалі, сват наш вельмі харош,
А ў свата доўгі буслаў нос.
А ў свата доўгі буслаў нос.

— Ду, ду, ду...

А ў свата лыса галава
Ды казліна рыжа барада.
Ды казліна рыжа барада.

Плавае па хаце, як таран,
Лыпае вачыма, як баран.
Лыпае вачыма, як баран.

— Ду, ду, ду...

Калі, сват, гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты з'ясі.
Прыйшоў на вяселле,
Прыйшоў на вяселле,
Прыйшоў на вяселле наш сваток.
— Ду, ду, ду...

**Спявае Юстына Кардзюкевіч з Бельска-Падляшскага**

### ЗОРНЫ БАЛЬ

*Музыка У. Будніка*
*Словы Лагчынава*

Ты падыйдзеш непрыкметна,
А я даўно стамілася чакаць.
Ты быццам прынц з той казкі запаветнай
Мяне адну запрасіш танцаваць.
Мяне адну, мяне адну, запросіш танцаваць.
*Прыпеў:*
Зорны баль для дваіх,
Ты чароўны мой сон.
Ты і свята маё, і сумненне.
Зорны баль для дваіх,
Мой салодкі палон,
Затрымайся ящчэ на імгненне.

А побач пара кружыцца за парай.
Я зорны дождж далонямі лаўлю.
Плыву насустрач музыцы і марам
Танцуй са мной, танцуй са мной.
Я так цябе люблю.
*Прыпеў.*

Паrаснуць ціха дыяменты-зоркі,
Але ля сэрца музыка гучыць.
I пацалунак развітальны горкі
Мне без цябе ніяк не патушыць.
Мне без цябе, мне без цябе
Ніяк не патушыць.
*Прыпеў.*

**Спявае дуэт — Люба Гаўрылюк і Жэня Астапчук з Беластока**

### ЦІХІ ЛЕТНІ ВЕЧАР

*Словы У. Клішэвіча*
*Музыка М. Куліковіча*

Ціхі летні вечар
Зацвітаюць ружы
Не адна дзяўчына
Па каханым тужыць. (2 разы)
Не ў адной дзяўчыны
Часта вечарамі
Набягаюць вочы
Горкімі слязамі.

Бягуць, бягуць думкі...
I, нарэшце, ўстане
Светам яснай зоркі
З любым час расстання. (2 разы)
Уздыхне і скажа:
— Ў краю тым далёкім
Адгукніся словам.
Любы чарнавокі.

Сыпле вецер цветам,
Адцвітаюць ружы,
Не адна дзяўчына
Па каханым тужыць. (2 разы)
Не ў адной дзяўчыны
Часта вечарамі
Набягаюць вочы
Горкімі слязамі.

**Спявае рок-гурт „Грамада" з Віцебска**

### МАНАЛОГ ПАЎСТАНЦКАГА КАНЯ

*Словы і музыка*
*С. Сокалава-Воюша*

Ты сядзі упэўнена
На маёй спіне,
Мы з табой не першы раз,
Браце, на вайне,
Мы з табой не першы раз
Пачынаем бой,
Ты сядзі упэўнена,
Я заўжды з табой.

*Прыпеў:*

Цок-цок, цок-цок —
Вершнікі на конях,
Цок-цок, цок-цок —
Ты зважай, народ.
Цок-цок, цок-цок —
I штандар з Пагоняй,
Цок-цок, цок-цок —
Кліча у паход!

Недзе там на беразе,
Проста ля ракі
Нас чакаюць свежыя
Царскія палкі,
А за імі вольныя
Неба і мурог,
Прага неадольная
Новых перамог.

*Прыпеў.*

Ты сядла не пакідай,
Вер, што не зманю,
Толькі болей волі дай
Мне, свайму каню.
Толькі болей волі дай:
Куля не кране,
Ты сядла не пакідай
I не цугляй мяне.

*Прыпеў.*

## Помнікі культуры



Прачысценская царква ў Бельску-Падляшскім, збудаваная ў XVI стагоддзі. Фота Я. Чэрнякевіч

## Фурор „Хлопцаў—рыбалоўцаў"

Калі наш славуты мужчынскі калектыў з Рыбалаў быў запрошаны ў Мінск на Свята славянскага пісьменства і культуры, яны як бы крышку пабойваліся, што іншыя спявачыя калектывы, якія з'едуцца з усяго славянскага свету, прыцьмяць іх. Думаю, што іх боязь падзялілі арганізатары канцэрта ў Вязынцы, бо доўгі час як бы адсоўвалі нашых спевакоў выступіць пазней. Але калі ўжо заспявалі „Хлопцы-рыбалоўцы", то апладысментам і захапленням публікі не было канца. Калі б не трэба было хуценька вяртацца ў Мінск, іх выступленне магло б працягвацца яшчэ доўга.

У нядзелю вечарам (27 мая) у гасцініцы „Юбілейная" быў банкет для афіцыйных дэлегацый з усяго свету (ужо не толькі славянскага) і пісьменнікаў. На ім прысутнічалі міністры, паслы, прафесары, паэты і нават сам мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі. Былі таксама і „Хлопцы-рыбалоўцы".

Банкетная зала была такая вялікая, што ў адным яе канцы іграў аркестр і на паркеце танцавалі дзесяткі параў, а ў другім — Сцяпан Копа „нарэзваў" на сваім акардэоне сярод дзесяткаў прыхільнікаў беларускіх і ўкраінскіх песень, і ніхто нікому не перашкаджаў. Меладычныя песні „Хлопцаў-рыбалоўцаў" вельмі хутка прыцягнулі ўвагу, і вакол іх пачалі гуртавацца людзі. Спачатку прыглядаліся, а пасля і самі заспявалі. Спявалі міністры, сакратары, прафесары, дацэнты і дыпламаты. Не вытрываў і яго Прэасвяшчэнства Філарэт і таксама падыйшоў да спевакоў. Ён, праўда, не спяваў, але слухаў, а вочы яго свяціліся радасцю. Пасля ўзнагародзіў іх воплескамі.

Банкет даўно закончыўся, а нашых спевакоў ніхто і не думаў выпускаць з цеснага круга. Наадварот, далучыліся яшчэ да іх прафесар Базылі Белаказовіч з Варшавы і дацэнт Анатоль Папоўскі з Днепрапятроўска.

У гасцінічны нумар вярнуліся мы памучаныя, але радасныя. Я асабіста цешуся, што наш калектыў з Рыбалаў зрабіў такое цудоўнае ўражанне, якое я не баюся назваць фурорам.

**Васіль Петручук**

## ЯК У БЕЛАВЕЖЫ ПРАДАЮЦЬ „НІВУ"

Пад канец мая была я некалькі дзён у Белавежы. Як заўсёды куплю там „Ніву", бо цяпер падпіскі няма і атрымоўваць нашу газету даводзіцца з вялікімі цяжкасцямі.

Пайшла я ў кіёск каля станцыі Белавежа-Палац — не дзейнічае, рамонт ці што іншае, невядома. Другі кіёск, каля царквы, таксама не дзейнічае. Не здаюся, пайшла я 2 км у канец Белавежы, а там прадаюць, але „з-пад прылаўка". Усялякія іншыя часопісы ляжаць наверсе, а „Нівы" не відаць. Пытаю пра яе — чую нейкае мармытанне, выразнага адказу няма! Кажу, што куплю кожны, нат стары нумар. Адказ: няма старых, бо я здаю, не купляюць. А можа ёсць новы, сёння ўсяго панядзелак, 28 мая. Прадавец паглядзеў, пакорпаўся пад прылаўкам і дастаў мне новую „Ніву", ад 27.V. На маю ўвагу, што, калі так прадаваць, вядома, што ніхто не купіць, паклаў на прылавак з левага боку каля 10 экземпляраў і зноў так, каб не было відаць. Цікава, колькі гэты прадавец звярнуў экземпляраў „Нівы"? А там жа была цікавая гістарычная нататка П. Байко пра Белавежу.

Што робіць Белавежскі гурток БГКТ, калі не цікавіцца, як прадаецца наша газета... Ды і, відаць, самі не купляюць яе.

**А. Анішэўская**

## АСВЕТНЫ МУЗЕЙ

З ініцыятывай стварэння музея асветы выйшла Ваяводская педагагічная бібліятэка ў Беластоку. Яна пачала збіраць экспанаты, звязаныя з узнікненнем і развіццём асветы на Беласточчыне.

У сувязі з гэтым Ваяводская педагагічная бібліятэка звяртаецца да ўсіх настаўнікаў, дзяцей і моладзі і ўсіх, каму бліз-

(Працяг на стар. 8)

## ЗА ПОСПЕХ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

(Працяг са стар. 1)

лах, дзе блёкі. Ёсць на чым. Таксама на парканах вакол новых будоваў. Можна адразу шпарнуць дзесятак які плакатаў і абавязкова бела-чырвона-белы, бо ён здалёк прыцягвае вока. Рабіць плакаты, на якіх многа тэксту, — гэта памылка. Іх ніхто не чытае. Людзі рэагуюць на сімвалы, на заклікі. І звяртаюць увагу перш за ўсё на тыя плакаты, што бел-чырвона-белілі надпісам: „Беларусы! Галасуйце на кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта". Той-сёй з нашай сябрыны выцягнуў быў недзе з-пад ложка ці з-за шафы мінулагодні: „Пра нашы справы будзем гаварыць самі. Сакрат Яновіч". Яны таксама добрыя. Усё яшчэ актуальныя. Цяжкавата было знайсці месца для плакатаў на вулачках вясковага тыпу. Ляпілі мы на слупах, але яны не кідаліся ў вочы. Пакідалі таксама лістоўкі ля веснічак, амаль у самыя рукі тыкалі.

У суботу адчынілі вокны клуба і запусцілі музыку. Куды там Качмарскаму, які спявау у сядзібе „Салідарнасці", да нашых „Дубіноў", „Васілёчкаў" ці хлопцаў з віцебскай „Грамады". Трэба было бачыць, як святлелі твары людзей на вуліцы! Шмат хто прыпыняўся на даўжэй, а то і заходзіў у клуб са словамі падтрымкі. Дзякуем. Але былі і прыкрыя інцыдэнты. Нехта тэлефанаваў, што мы парушаем парадак (наша музыка гучала галасней за салідарніцкую), дзеці забягалі ў пад'езд з выкрыкамі „камуна!". Суботнім надвячоркам, калі мы зноў пайшлі ляпіць плакаты, чарада дзяцей бегала па нашых слядах і абдзірала яшчэ мокрыя. Мы схітравалі і пачалі наклейваць іх як мага вышэй: калі які смаркач і дацягнецца да яго з ровара, то была надзея, што пры гэтым можа і нос патаўчы, шлёпнуўшыся на зямлю.

Выбарчую акцыю мы спынілі ноччу з суботы на нядзелю. У чатыры гадзіны святой ночы мы з Андрэем Сцепанюком і Толікам Вапам прайшліся пад царкву, каб яшчэ паглядзець, ці не знішчылі нам стэндаў, якія мы там памясцілі за дазволам святароў. Усё ў парадку. Можна было гадзінку якую падрамаць на крэсле ў клубе, каб ужо з самой раніцы трымаць руку на пульсе выбарчых падзей. Я еду да сябе на вёску аддаць свой голас за кандыдата БВК у Тынявічах. У Бельск вяртаюся вечарам пачуць пра вынікі.

А палове восьмай у клубе ціха, як у магіле. Нашы людзі не пайшлі галасаваць, прайграваем ва ўсіх акругах, — такія сумныя звесткі ад нашай разведчыцкай сеткі. Ужо запозна, каб нешта зрабіць. Застаецца чакаць афіцыяльнага пацвярджэння нашага выбарчага правалу. Выходжу на вуліцу, чую, як цешацца нашы суседзі з салідарніцкага грамадзянскага камітэта. Маюць чым. Гэтым разам яны зноў у пераможцах. Вяртаюся ў клуб, ёсць ужо першыя звесткі з выбарчых пунктаў: маем першага раднага. Робіцца крыху весялей, хтосьці жартуе і пасылае будучага „бурмістра" па гарэлку. Андрэй Сцепанюк прыляпіўся вухам да тэлефоннай трубкі. Ёсць! Другі наш кандыдат прайшоў. Крыкі, піскі, воплескі, віншаванні і пацалункі нашых дзяўчат. Ура! Такое паўтараецца восем разоў. У клубе штораз гусцей ад народу. Тут ужо ледзь не ўсе кандыдаты, ну і тыя, хто рабіў прапаганду, — моладзь. Хтосьці прапануе вывесіць сцяг. Старэйшыя моцна не пратэставалі, нешта ж належыцца і тым, хто амаль не спаў апошні тыдзень. Наспех аналізуем вынікі. Магло быць і лепш. У дзвюх акругах нашы кандыдаты не прайшлі толькі таму, што кандыдаты ад новай нацыянальнасці ў Бельску, — „руска-украінскай" — якія ў гэтых выбарах не лічыліся, здолелі адабраць тую жменьку галасоў, патрэбную нашаму кандыдату, каб перамагчы салідарніка.

Я яшчэ раз выйшаў паглядзець, што пра вынікі выбараў пішуць салідарнікі на камп'ютэрнай табліцы, якую абсталявалі на сцяне блёку. Чую, што ў іх прыкметна пацішэла. Затое ў нас гудуць, як у вуллі. У ноч з вокнаў нясуцца „Многія леты" нашым радным. Нехта прашмыгнуў побач мяне са звягам „камуна!". А пайшоў ты...

Раптам з вокнаў сыпанулі воплескі. Над вуліцай развінуўся бел-чырвона белы. Жыве!

**Мікола Ваўранюк**

# Пульс і голас часу

„A więc przyszły nowe dni. Jeszcze często w starym ubraniu, jeszcze często z grzechami swych poprzedników, jednak mimo to nowe, gdyż pozwalają mówić i mieć nadzieję. Z tą też nadzieją wchodzi w wir wydarzeń Białoruski Komitet Wyborczy w Bielsku Podlaskim. Wchodzi spokojnie, bo nie bierze się on z niczego, a z tradycji myśli, która łączyła działania tysięcy ludzi — aby być człowiekiem, nie można wyrzec się swego Narodu, nie można odrzucić Religii swych przodków”.

Так напісаў у першым бюлетэні Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску адзін з яго рэдактараў. „Puls“ — выданне на польскай мове, перад выбарамі паказаліся тры нумары: 2 красавіка, 30 красавіка, 21 мая. У першую чаргу „Пульс“ меў стацца прапагандавым успамажэннем выбарчай кампаніі за беларускіх кандыдатаў. І, як вынікае з артыкула М. Ваўранюка, рэдактары не страцілі часу папусту. Але „Пульс“ стаўся нечым значнейшым за выбарчую агітлістоўку — першым уласна беларускім прэсавым форумам у Бельску. І то, заўважым з прыемнасцю, зробленым прафесіянальна, акуратна адрэдагаваным і надрукаваным так жа акуратна ў бельскай друкарні. А бюлетэнь жа стварылі аматары ў выдавецкай справе, непрафесіяналісты: Андрэй Сцепанюк, Славамір Іванюк, Юрка Баена, Янка Мордань. Значыць, у Бельску сфармавалася група, якой пад сілу рабіць перыядычнае выданне. Аб такім намеры яны ўпамінаюць у першым выпуску. Пажадаем ім поспеху на гэтай дарозе.

* ✲ *

„Kali nazywajesz siabie czałasiekam, to heta znaczyć, szto razam ź inszymi stwarajesz czas, u jakim żywiesz. Naiúnaściu źjaúlajecca mierkawańnie, byccam robisz usio sam i dla siabie. Razam ź inszymi żywiesz i karystajeśsia wartaściami wypracawanymi praz inszych. A kab sztości wartasnaje wypracawać, nieabchodny abmien dumkami. Tamu nam u Hminie patrebna swaja Hazeta, u jakoj mahczyma było-b taki abmien ażyćciawić. (...) U historyji naszaha miasteczka tolki Ściapan Petelski („Aroł”) na pałoskach „Naszej Niwy” ú paczatku hetaha stahodździa pradstaúlaú życcio Haradka takim, jakim jano tady było. Dawajcie wierniemsia da tradycyji. Niachaj toje, szto kaliści było, adrodzicca i pradaúżajecca”.

Гэтак, пяром шалёнага мастака Лёніка, зарэкамендавала сябе рэдакцыя першага нумара „Голасу Гарадка“ — часопіса Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку. Часопіс выдаецца на беларускай мове лацінскім шрыфтам (у спрошчаным, „польскім“, выглядзе, як відаць у прыведзеным вышэй урыўку „Уводнага слова“). Перад выбарамі выйшлі два нумары „Голасу Гарадка“: 19 мая і 26 мая. Пачынаючы ад ліпеня часопіс будзе выходзіць рэгулярна як штомесячнік. Ядро рэдакцыі складаюць: Лёнік Тарасэвіч (галоўны рэдактар), Аляксандр Карпюк і Тамара Бурачэўская. Чорную работу (перапісвае на машынцы) выконвае супрацоўнік „Нівы“ Ян Максімюк. Часопіс друкуецца ксера-тэхнікай, са здымкамі, аб'ёмам у 12 старонак фармату А4. Гэтае сенсацыйнае і ўнікальнае гміннае выданне ажыццяўляецца за кошт самаахвярнасці рэдакцыі і фінансавага ўспамажэння жыхароў гміны.

* ✲ *

За год часу (ад чэрвеня да чэрвеня) беларусы Беласточчыны прайшлі эпоху ў сваім нацыянальным самасцвярджэнні. Выдавецкая беларуская актыўнасць з'яўляецца непасрэдным вынікам палітычнай беларускай актыўнасці. „Czasopis“, „Puls“, „Голас Гарадка“ — беларускія выданні самай апошняй пары — гэта першыя ластаўкі паўнакроўнага, адпавядаючага этнічнай і палітычнай сітуацыі ў рэгіёне, выдавецкага працэсу.

Напрыканцы мая выйшаў першы нумар палітычнага беларускага часопіса на Беласточчыне — бюлетэнь БДА „Беларускія Навіны“.

**Л. Баганец**

## Замалёўкі з жыцця

### КАВАЛЬ

Усе хваляць Сеньку і нават ганарацца ім. Што ж, ён артыст. У яго прыгожая жонка.

Мы з ім за адной партай сядзелі. Чым я горшы за яго? Мне толькі ў жыцці не пашчаслівілася, і ўсё. Аднак яшчэ не позна. Я чуў, як у тэлевізары гаварылі, што для творчасці кожны год жыцця добры, і ніколі не позна! Кожны чалавек — каваль свайго лёсу!

Вырашыў я напісаць даклад „Аб жыцці чалавека ў сучасным свеце і яго норавах“. Напісаў гэты даклад памерам у два вялікія акадэміцкія сшыткі. Тоесёе паправіў. Пасля напісаў аб'явы і расклеіў у важнейшых месцах.

Прыйшоў я ў святліцу. Людзей сабралася шмат. Я сеў за стол і, падзякаваўшы людзям за прысутнасць, пачаў урачыста чытаць.

Чытаў, чытаў, аж язык у мяне разбалеўся. Калі я скончыў, падняў вочы і... не ўбачыў ніводнага чалавека. Прыйшлося мне самому апладзіраваць. Глянуў я на гадзіннік. Была другая ўначы.

— Дзе ты шляўся?! — закрычаў на мяне бацька. — Добрыя людзі спяць, а такія лайзы, як ты, валочацца немаведама дзе!

Я моўчкі лёг у ложак.

Гэтая няўдача мяне не знеахвоціла: Другі раз будзе лепш!

Надумаўся я спяваць. Падрыхтаваў адну доўгую песню. Зноў наклеіў усюды аб'явы, калі і дзе будзе маё спяванне, і чакаў таго дня.

У святліцы людзей было поўна. Я быў у сёмым небе.

Заплюшчыўшы вочы, я пачаў спяваць. Спяваў на змену то тонкім, то грубым голасам, бо не раз паветра не хапала. Калі я адкрыў вочы, то ўбачыў, што ўсе слухачы спяць. Я хутчэй выйшаў з залы.

— Ты чаго такі сумны? — сустрэў мяне бацька.

— У мяне зуб баліць, — схлусіў я.

— То ідзі да лекара, — спагадліва параіў бацька.

Што ж! Можна прабаваць тры разы.

На гэты раз я вырашыў напісаць вершы і прачытаць іх людзям. Мо цяпер мяне дацэняць? Пісаў я вершы аб каханні і аб прыродзе. Добрыя, па-мойму. Цяпер-вось мяне расхваляць!

Так, як заўсёды, расклеіў я аб'явы і прыйшоў у вызначаны дзень. Людзей зноў было шмат. Пачаў я чытаць. Прачытаў адзін верш і адразу пасыпаліся пытанні. Некаторыя былі настолькі хітрыя, што я не змог адказаць.

— Ой, людзі! — крыкнуў старэйшы мужчына. — Розныя я вершы чытаў і чуў, але такога вершаплёцтва яшчэ не бачыў. Скажы, для каго ты тыя творы пісаў?

— Ну, як гэта? Перш за ўсё, для сябе, а пасля...

— Як для сябе, — збілі мяне з панталыку, — то ідзі, адкуль прыйшоў, і чытай сабе!

Ніхто за мяне не заступіўся...

— Што?! — злосна сустрэў мяне бацька. — Вершы захацеў пісаць? Ідзі лепш у кузню і зрабі коням падковы.

Што ж было рабіць? Пайшоў я ў кузню і давай працаваць. Так і жыву адзін, бо якая ж дзяўчына за мяне пойдзе. У каваля такая чорная работа.

**Аўрора**

## ВІНШУЕМ

Прайшлі конкурсныя дні праваслаўнага фестывалю ў Гайнаўцы. На чацверты дзень, у нядзелю, у Гайнаўскім доме культуры адбыўся ўрачысты канцэрт лаўрэатаў. Уступ быў па білетах і можна было апладзіраваць.

Вельмі добра зрабілі арганізатары, што дапусцілі да ўдзелу ў канцэрце лаўрэатаў усіх удзельнікаў конкурсу — усе дзевяць хораў: два з Беластока, два з Гайнаўкі, па адным з Бельска, з Нараўкі, з Орлі, з Ляўкова Старога і з Новага Беразова. Кожны з хораў праспяваў, вельмі добра, па адной песні, а ўзнагароджаныя хоры спявалі па дзве. А два хоры з Мінска, прывітаныя бурлівымі апладысментамі, былі вымушаны даць невялікія канцэрты.



*Мікалай Бушко з сынам Паўлам рыхтуецца аб'явіць выступленне чарговага ўдзельніка Фестывалю праваслаўнага спеву ў Гайнаўцы.* *Фота У. Завадскага*

Увесь канцэрт быў багаты і вельмі цікавы. Даў многа хвалюючых перажыванняў. На заканчэнне адбылася мілая ўрачыстасць, героем якой стаў дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко, які ў гэтым годзе дасканала вёў увесь фестываль.

Прадстаўнік Мітрапаліта Васілія ўручыў Мікалаю Бушко медаль Марыі Магдаліны II ступені. Рашэнне аб узнагароджанні М. Бушко за заслугі ў арганізацыі фестываляў праваслаўнага спеву і прапагаванне праваслаўя прыняў Сінод Праваслаўнай царквы ў Польшчы на сваім пасяджэнні 10 мая. Медаль Марыі Магдаліны — рэдкая адзнака і прызнаецца за вялікія заслугі.

Шырокую дзейнасць і заслугі М. Бушко на беларускай ніве адзначыла і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. С. Яновіч уручыў М. Бушко швейцарскі гадзіннік і фундаментальнае двухмоўнае англійска-беларускае выданне „Беларуская мова“, якое выйшла нядаўна на кошт канадскага ўрада. Аўтар выдання д-р Валянціна Пашкевіч.

Гайнаўская публіка, стоячы, доўга апладзіравала дырэктару Мікалаю Бушко.

Віншуем і мы. **(вв)**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


**УДЗЕЛЬНІКІ ЦЭНТРАЛЬНАГА АГЛЯДУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '90“ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ.**



*Калектыў з Маліннікаў.* *Фота Яніны Чэрнякевіч.*



*Трыо з Орлі.*



*Кася Шэвяк — вуч. III класа з Кляшчэляў.*

**Уладзімір Караткевіч**

## МОКРЫЯ ТРАВЫ

Я сумую па радзіме,
Па яе лугах і нівах,
Па трыпутніку, што гладзіў
Ногі збітыя мае,
Па укропу на гародзе,
Рэчках ціхіх і лянівых,
І па сопкай белай бульбе,
Што на стол яна дае.

Я сумую па радзіме....
Бачу ціхія паляны.
Цёплы мёд яе маліны
Адчуваю на губах.
Ты — мая лясная казка
У красе доўгачаканай,
Ты — мая святая песня,
Свет адзіны у вачах.
Просты свет, дзе дрэмлюць хаты,

Дзе раса на травах спее,
Дзе у росных шатах чуцен
Гівала пяшчотны свіст,
Дзе наўсцяж канавы мокрай
Пышны кураслеп жаўцее,
І купае тоўсты лопух
У вадзе мясісты ліст.

Мокры край. Дажджы і сонца.
Вільгаць сонечнага лета.
Жарабя бяжыць па лузе,
Радасна задраўшы хвост.
Цэлы век вісіць вясёлка
Над краінай мокрай гэтай,
І глядзяць спакойна коні
На нябесны дзіўны мост.

**Змітрок Бядуля**




### КАЗКА

Ля рэчкі, пад вольхай, хохлік знайшоў ракавінку. Уладзіў у ёй кузню і давай чырвонцы каваць. Праца ў яго заўсёды кіпела ўночы, калі, бадай, усе жывыя істоты спалі, калі спяваў адзін салоўка і месячык рэчку фарбаваў.

У кузні ў хохліка было некалькі памочнікаў. Светлячок раскладваў агонь на горне. Цвыркун працаваў малатком пры кавадле. Жаба дзьмухала кавальскімі мяхамі.

Пад карэннямі вольхі, ля рэчкі, крот выкапаў патаемныя падзямеллі, дзе хохлік хаваў свой багаты скарб — скрыні з золатам. Разнеслася вестка па ўсёй ваколіцы ля рэчкі, што хохлік вельмі багаты і мае незлічоныя скарбы пад вольхай.

— Сама сваімі вушамі чула, — казала маленькая плотачка ў рэчцы, — цэлымі начамі куе ды куе ў сваёй кузні, грукае і стукае і нам, рыбкам, проста спаць не дае.

— Сама сваімі вачыма бачыла, — казала варона, — усё там у яго ў кузні блішчыць і блішчыць. Свеціць як маланка, ажно вочы слепіць мне, старой. І я мусіла купіць цёмныя акуляры, бо доктар драч напужаў мяне, што зусім аслепну пад старасць, калі не буду асцерагацца. Адно гора з гэтым хохлікам.

— Ку-ку! Ку-ку! Раз-два! Тры-чатыры! — кукавала зязюля на вольсе. Яна ў цёплыя раніцы сядзела на дрэве ды ўсё лічыла багацце хохліка. Але зязюля ў лічбах надта не кемная: лічыць-лічыць, заблытаецца ды зноў спачатку пачынае, і гэтак штодня.

— З-з-з-м-м-м! З-з-з-м-м-м! — гудзеў авадзень над рэчкай. — Гэта ж проста бяда, аднаму ўсё, а другому нічога. Я лётаю-лётаю, б'юся як рыба аб лёд і нічагуткі не маю, а хохлік увесь свет захапіў.

— Ш-ш-ш! — казаў чарот. — Не шуміце так, не грымíце ды не зайздросце. Працуйце, дык і вы будзеце мець. Я вось сведка, як хохлік са сваёй сям'ёй працуе да поту.

— Дурань, дурань, дурань! — крыкнуў дзяцел чароту. — Не лезь, куды цябе не просяць. Маўчы, ды годзе. А вось давайце, браткі, будзем дзяліць хохлікава дабро!

— Давайце! Давайце! — крыкнулі вераб'і.

— І мы, і мы да кампаніі! — загудзелі камары.

— Калі ўсім, дык і нам! — закудахталі куры.

Падняўся шум, гармідар, крыкі. Наляцелі з усіх бакоў звяры і птушкі, мухі і ўсе жывыя істоты, хто толькі даведаўся аб ба-

(Працяг на стар. 10)

# СКАРБ

(Працяг са стар. 9)

гацці хохліка. Усе рынуліся да хохліка ў кузню, каб яго абрабаваць.

Але хохліка таксама ўлегцы не возьмеш. Ён схаваў свае скарбы спрытна. Закопваў па ўсёй ваколіцы ў розных мясцінах — па лясах, па лугах, пад крушнямі, пад дрэвамі. Не было лапінкі зямлі, дзе не ляжалі б яго скарбы. Але ніхто іх знайсці не можа. Грабуцца куры па сметніках. Капаюцца птушкі на палях. Порацца звяр'ё пад карчамі, рыба ў вадзе. Шукаюць, шукаюць, але нічога з гэтага не выходзіць.

Наслухаўся малы Саўка ад свайго старога дзеда, каторы жыў у млыне ля рэчкі, шмат баек аб багатых скарбах. Яны захаваны ў зямлі, іх усе шукаюць пад карчамі і знайсці не могуць.

— Іх трэба шукаць апоўначы ў купальскую ноч, калі кветка папараці цвіце, — казаў дзед, — тады можна іх знайсці.

Вось у купальскую ноч, калі дзед ужо спаў, малы Саўка выйшаў ціхенька з хаты. Узяў з сабою рыдлёўку і пабрыў скарбаў шукаць. Убачыў ён здалёку агеньчык, які блішчаў на полі ля крушні і вабіў да сябе.

„Гэта, пэўна, скарб! — падумаў Саўка і пайшоў на гэты агонь. Ён да агню, а агонь ад яго далей і далей, і завёў агонь хлопчыка ў самы цёмны гушчар. Страшна і жудасна было ў гушчары. Дрэвы, як жывыя істоты, шапталіся паміж сабою і нібы дзівіліся, што такі малы хлопчык не баіцца адзін швэндацца ў лесе па начах. Тым часам агонь знік, а замест агню залаты пеўнічак заблішчаў на карчы.

— Вось дзе скарб! — узрадаваўся Саўка і трах рыдлёўкай пеўнічка па галаве. Пеўнічак запяяў і знік, а замест пеўнічка паказаўся залаты зайчык. Саўка зрабіў тое самае з зайчыкам. Паказалася залатая лісічка... Затым — залаты ваўчок... Залаты мядзведзь... Але ён дзіка раўнуў і глынуў Саўку.

Ачухаўся Саўка праз некалькі хвілін. Ажно стаіць ён пад зямлёй, а на яго глядзіць і ўсміхаецца хохлік, малюсенькі і тоненькі, як травінка, прыбраны ў шоўк і ядвабу. На галоўцы ў яго залатая карона з дарагімі каменнямі.

— Вось ты і папаўся, Саўка, у мае рукі! — сказаў хохлік.

— А я ж цябе не баюся, — загарачыўся Саўка. — Зачэпіш мяне, дык я цябе вось адным пальцам задушу! — і паказвае хохліку свой палец. Але як глянуў сам на свой палец, дык адразу анямеў ад страху: палец цянюткі, як павуцінка. Тады давай Саўка аглядаць усяго сябе. Ажно ён сам такі ж маленькі, як хохлік. Тут Саўка спужаўся і заплакаў.

— Не плач, — сказаў хохлік, — Давай цяпер, калі ты ростам такі, як я, будзем аглядаць мае скарбы пад зямлёю.

(Працяг будзе)

# ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 222120, Мінская вобл., г. Барысаў, вул. Мінская, 31. Капцюх Жане (6 клас).

* ✱ *

СССР, 279200, Молдавская ССР, г. Бельцы-29, бульвар Ларисы, 14, кв. 30. Затушевской Анне (7 клас).

* ✱ *

БССР, 225710, Брэсцкая вобл., г. Пінск, вул. Пралетарская, 16, кв. 1а. Германовіч Людміле (4 клас).

* ✱ *

СССР, 346500, Ростовская обл., г. Шахты, мк/р-н Горняк, д. 14, кв. 23. Медведевой Наташе (6 клас).

* ✱ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 139. Марына Шпак (8 клас).

* ✱ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 99, кв. 16. Надзя Антонава (7 клас).

* ✱ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 32. Віталік Кухаронак (5 клас).

* ✱ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 1, кв. 23. Саша Карповіч (5 клас).

* ✱ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Мацвееўская, 7, кв. 1. Сяргей Грынеўскі (5 клас).

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✱ *

— Доктар, даражэнькі, мне так ногі баляць! Можа, вы параілі б мне, якія боты насіць?

— Якія боты? — застанаўляецца доктар. — На нумар большыя!

* ✱ *

Дзядзька Пятро прывёз з падарожжа па Афрыцы прыгожыя чырвоныя боты з кракадзілавай скуры.

— Якія ж гэта прыгожыя боты! — дзівіцца яго сябар. — І я хацеў бы такія мець.

— Едзь у Афрыку, сядзь на беразе рэчкі і чакай, калі паказацца кракадзіл.

Мінуў год. Зноў сябры сустрэліся.

— Ну, дзе ж твае чырвоныя боты? — пытаецца дзядзька Пятро ў сябра.

— Нічога з таго, — сумна гаворыць сябар. — Сяджу я на беразе ракі дзень — нічога, сяджу другі — нічога. Чакаю трэці дзень — нічога. А на чацвёрты дзень вынырнуў кракадзіл. Але ў яго не было ботаў.

* ✱ *

— З чаго робяцца рыбацкія сеці? — пытаецца малы Косцік.

— З вялікай колькасці малых дзірачак, павязаных паміж сабою, — адказвае яго старэйшы сябар Міша.

# Вершы Віктара Шведа

## МАДЭЛЬ

Прыгожа на свеце,
Смех і гамана.
На падворку дзеці
Лепяць балвана.

— Чаму не паможаш?
Адлажы партфель!
Азваўся Сярожа:
— Я ў іх за мадэль.

## САМ СЯБЕ ВАЗІЦЬ Я БУДУ

Матуля няспынна
Сварыцца на Колю:
— Сядай у машыну,
Завязу у прадшколле.

— Шмат спраў у праграме,
Спяшаешся ўсюды.
Вырасту я, мама,
Сам вазіцца буду.

## ШТО РОБІШ, СЫНОК?

— Што робіш, сынок,
З гэтаю паперкай?
— Знайшоў я лісток
На пісьмо Валерку.

— Ты ж яшчэ пісаць
Не ўмееш, Адаме.
— Валерык чытаць
Не ўмее таксама.

## ДЗЕТАК ПАНЯСУЦЬ У ХАТЫ

— Скажу табе, Эвуня,
Цікавую прыкмету:
Маюць ужо на клуні
Буслы маленькіх дзетак.

— Дык тут такая справа:
Напэўна, мілы тата,
Буслы ўжо неўзабаве
Іх панясуць у хаты.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Выпаў першы снег.
Прыгожа навокал.
Запытаў Алег:
— Мо збяжым з урокаў?

— Не рызыкаваць, —
Адказаў Уладзік. —
Добра ўсё відаць
І сляды нас здрадзяць.

## ЦІ Ж Я МЕЎ ДВА НАСЫ?

— Праз канікулы, сынок,
Пахудзеў так многа,
Што адзін тырчыць насок,
Больш няма нічога.

І, збянтэжыўшыся, сын
Знайшоў раптам выйсце:
— Ці ж я, мама, два насы
Меў ужо калісьці?

Міхась Пазнякоў

# ЗАГАДКІ

* ✱ *

*Не чалавек,*
*Але працуе,*
*Іграе, піша,*
*Рамантуе.*
*І фрэзероўшчык ён,*
*І токар,*
*Здзіўляе ўсіх*
*Сваёй работай.*

(Робат)

* ✱ *

*Хто са мною пасябруе,*
*Той ужо не засумуе.*
*Языка хоць і не маю,*
*А пра ўсё апавядаю.*

(Кніга)

* ✱ *

*Белы дамок*
*У кватэры стаіць.*
*У ім круглы год*
*Дзед Мароз*
*То буркоча,*
*То спіць.*

(Халадзільнік)

* ✱ *

*Хобат мае, ды не слон.*
*Па балоце ходзіць ён.*
*След глыбокі пракладае,*
*І балота прападае.*

(Экскаватар)

* ✱ *

*На полі цёмным і бясконцым*
*Гарох бялюткі ззяе.*
*А цемру як разгоніць сонца,*
*Тады гарох знікае.*

(Неба, зоркі)

* ✱ *

*Вечна — беланогая,*
*Ды сукенкі ўсё мяняе:*
*То яна зялёная,*
*То празрыста-залатая.*
*А зімовым ясным днём*
*Адлівае серабром.*

(Бяроза)

* ✱ *

*Доўгая, шырокая каса*
*Аж да неба дарасла.*

(Дарога)

* ✱ *

*Пад сасной шатрыстай*
*У загадкавым бары*
*Церам залацісты*
*Збудавалі жыхары.*

(Мурашнік)

* ✱ *

*Грукацела,*
*Бліскатала.*
*Каляровым ручніком*
*Неба павязала.*

(Навальніца, вясёлка)

* ✱ *

*Я на сонейка падобны,*
*Я для ўсіх ласунак добры*
*Не тады, калі свячуся,*
*А як згасну і сагнуся.*

(Сланечнік)

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

Знайдзі на гэтых малюнках 10 адрозненняў.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

* * *

— Каханая, — мармыча праз сон муж, — выключы тэлевізар, пасцялі ложак і дай шклянку гарбаты.

— Не магу, — адказвае жонка. — Прачніся! Мы знаходзімся ў кіно!

* * *

На шашы маладая і прыгожая дзяўчына мяняе кола ў аўтамашыне. Ветлівы шафёр затрымліваецца побач і прапануе сваю дапамогу.

— Вельмі дзякую, — адказвае маладая дама. — Толькі давайце будзем ціха, бо ў машыне спіць мой муж!

# НІЎКА

# АФАРЫЗМЫ

Сапраўдную павагу дасягае чалавек тады, калі памірае.

✳

Сям'я — гэта найбольш арыстакратычная форма жыцця.

✳

Ніводзін чалавек не заслугоўвае пахвалу, але кожны заслугоўвае літасць.

✳

Толькі пры канцы жыцця заўважаем, што жыццё гэта школа, у якой чалавек з'яўляецца няўважным вучнем.

✳

Нарадзіў чарвячок чарвячка. Чарвячок поўзаў. Потым памёр. Вось нашае жыццё.

✳

З дзяцьмі і горыч бывае салодкай. Без дзяцей і шчасце не захапляе.

✳

Аж жах бярэ, што чалавек, вечны філолаг, прыдумаў слова „смерць".

✳

Ніхто так не мучыцца, як зайздроснік.

✳

Не давяраючы сабе, нельга быць моцным. Але давер выклікае ў чалавеку хвалю няскромнасці.

✳

Усе пісьменнікі з'яўляюцца рабамі сваіх чытачоў.

✳

Толькі геній можа пагражаць іншаму генію.

**Васіль Розанаў**

## ЧАМУ ТЫ ВЫЙШЛА ЗА ТАТУЛЬКУ?

Пытае раптам маму
Маленькая Ганулька:
— Чаму ты выйшла замуж
За нашага татульку?

— Я адказаць баюся
На гэта, — кажа мама. —
Бачу, што ты, дачуся,
Здзіўляешся таксама.

**Віктар Швед**

## ПЕРАЎТВАРЭННЕ

— Сягоння я сустрэўся з шэфам,
Ён на трамваі з намі ехаў.
Мяне пазнаў і першы
прывітаўся,
І я ім задаволены застаўся, —
Так я казаў суседу-куму,
А ён мне іншую даводзіў думу:
— Не ведаеш ты гэтай цацы,
Яго ж учора знялі з працы.

**Сямён Пацёмкін**

## САСЛУЖЫЎЦЫ

— Пятровіч, здароў! Дзе ты цяпер працуеш?

— Тут і працую. Ужо гадоў дзесяць...

— Дык і я ж тут! Дзіўна... А ў якім аддзеле?

— У Нічыпаровіча. Нічога не разумею... Чакай, а ў якія дні ты на работу ходзіш?

— Па панядзелках, серадах і пятніцах... У аўторак сына ў спартыўную секцыю важу. Малы, але падае надзеі. Аж у ІсЛач ездзім на трэніроўку. А чацвер — святы дзень — лазня!

— Тады ўсё зразумела. Я не іду звычайна ў панядзелак — пасля нядзелі, сам ведаеш... У сераду — лазня, а ў пятніцу на сваім „Масквічыку" з'язджаю далей ад гарадскога тлуму. Да цешчы ці на дачу...

— Ну вось, добра, што сустрэліся... Чакай, а сёння ж серада!

— Дык палучка ж сёння.

**Васіль Феранц**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

*Словы Уладзіміра Дубоўкі*
*Муз. М. Куліковіча-Шчаглова*

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет.
У віхры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш. (а, а...)

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю,
Тваіх вачэй пад колер сталі

Праменне яснае люблю. (а, а...)
Варожасць шляху не зачыне,
У перашкодах дух расце.
О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет.
(а, а...)


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok ul Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:
I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 900 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
— czerwiec — 3600 zł.
— lipiec — 4500 zł.
— sierpień — 3600 zł.
— wrzesień — 4500 zł.
Cena prenumeraty na III kwartał — 12.600 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11. Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 796/90